# Аксамітны Жах

INTERNATIONAL EDITION

м. Гомель 1999 рок, жнівень месяц. № 7


**Адгадай загадку, дружа: "Сядзіць мядзьведзь на купіне ў сваёй шкарлупіне, трасецца, калоціцца, а к яму ўвесь сьвет коціцца". Ты не сьпяшайся, падумай, альбо лепей скажы, ці бачыў ты жыўцом вятрак на раздарожжы, на ўскрайку жытняга поля? Што, ўжо ведаеш адгадку? Сапраўды, калі прыдасца ўзгадаць "вежу млыновую", асацыяцыі нашыя звычайна сягаюць надта далёка, ў этыкетачную далячынь, і на памяць прыходзяць напорастыя эўрапэйскія сюжэты. Няўдалы сын млынара Рэмбранд Хармэнс Ван Рэйн, і той млынараў нашчадак, які атрымаў у спадчыну негілюзнага[1], але кемлівага ката, і ў рэшце рэштаў чалавек, што змагаўся з ветракамі ў Гішпаніі** (нажаль забыўся на ягонае прозьвішча, можа вы памятаеце? Аўт.) **– яны запаўняюць эурапэйскі прасьцяг там, дзе яшчэ ёсьць парожняе мейсца, так, што на кожным другім фляманскім пэйзажы млын пад шэрымі нябёсамі.**

**І пры ўсім пры тым у нас раз-пораз трапляюцца то Мельнік, то Мельнікаў, і, разгаварыўшыся, вымаюць з радаводных глыбіняў свае пажоўклыя тэстамэнты, сямейныя паданьні – размова пра далёкае былое робіць нас чулымі, ўважлівымі, клапатлівымі; да кожнае дробязі мы ставімся ашчадна асьцярожна, як у прыгаршчах ваду баімося разблехаць тое нямногае, што чулі калісь ад бабулек. А хіба гэта дробязь – вятрак пасярод калгаснага гамону, калі ўсё майно развальваецца і ржавее?**



Лядаускі вятрак (з фота В. Пакаташкіна)

**Можа ён спатрэбіцца табе, вёска, ня як рудымэнт, а як рабочы арганізм. Карыстаецца-ж Эўропа ветракамі не з прычыны тэхнічнае адсталасьці, але ад забяс-печанасьці, што дазваляе беражліва адносіцца да традыцыі. Альбо вернасьць астоям ёсьць апірышчам у стварэньні дабрабыту? Як табе болей падабаецца. Табе тут болей падабаецца?**

## Знаёмы Вам

# Хіба гэта дробязь?

На Беларусі ветракі паўтаралі эўрапэйскі сылюэт: прынцып дзеяньня не адрозьніваўся, асновы канструкцы істотна не мяняліся, хіба што прыродныя ўмовы дыктавалі акалічнасьці, спосаб вядзеньня гаспадаркі ды лад жыцьця. У Гішпаніі й Францыі млыны цьвердзіліся на каменным цокалі, ў Скандынавіі й Галяндыі каркасная аснова складалася з драўляных брусаў альбо мэталічных элемэнтаў; пяці-шасьціпавярховыя спаруды[2], часта аздобленыя складанымі абхаднымі галерэямі, мелі жылыя пакоі і складзкія памяшканьні, дзе захоўваліся мяшкі з мукой, альбо падрыхтаванае для мліва збожжа; ў Расеі апірышчам ветрака быў пірамідальны бервяны зруб. Прычым, трэба адзначыць, што ў заходніх гаспадарствах функцыі ветрака былі максымальна разьвітыя і ўжо канешне не абмяжоўваліся млівам зерня; аднолькава пасьпяхова тут выкарыстоўваліся ўсемажлівыя маслабойкі, тартакі[3], крупарушкі, фолюшы[4], прэсы ды іншыя мэханізмы, што выконвалі розныя прамысловыя задачы; адзін мой знаёмы падказвае: «Друкавалі газэты». Безумоўна гэта аксамітная іронія, але было й такое, ветраная энэргія выкарыстоўвалася і для вырабу паперы. Ў Галяндзкай дзяржаве, што пагрозьліва месьцілася ніжэй марскога берага, шырока прымяняліся вадацяжныя й адліўныя мэханізмы на аснове ветракоў; працавіты народ здабываў новыя ўрадлівыя тэрыторыі, асушаючы прасьцягі, адрэзаныя дамбамі ад мора. У гэтай нізкай краіне ў 1850 року налічвалася 9000 ветракоў – дзяржава стварыла ўнікальную ў сьвеце ветраную гаспадарку, даведзеную да дасканаласьці, з наватарскімі дакладнымі мэханізмамі.

На Беларусі вятрак спраўна выконваў сваю непасрэдную прамысловую функцыю, засяродзіўшыся на сялянскай гаспадарцы, складаныя вытворчыя рашэньні ўзялі на сябе вадзяныя млыны; асаблівых тэхнічных цудаў і далікатных пластычных рашэньняў фасаду тут не назіралася. Кампазыцыя ветрака была простая, без архітэктурных прэтэнзыяў, не вызначаючыся дэкорнаю аздобаю. У дойлідстве ён, як сьпэцадзеньне ў гісторыі касьцюма – прыстасаваньне для працы, а калі так, выходзіць для лірыкі не застаецца мейсца. Ані ценю ўзьнёслае рамантычнасьці, ўласьцівае закінутаму шляхецкаму гнязду; пад млыновымі крыламі адно пачуцьцё руплівасьці, гаспадарлівасьці, працавітасьці. Без справы, відаць, там няма чаго бадзяцца, а калі й бадзяцца, дык абавязкова абмацаць, зазірнуць у кожную шчыліну, крануўшы рукой стогадовыя колы зразумець, чаму яны ўсё-ж-ткі круцяцца, і на чым гэты вятрак яшчэ трымаецца? Згадзіся, дружа, для цябе ён толькі ілюстрацыя, сымбаль мінулай эпохі, саркафаг народнае інжынэрыі й зьвесткі адносна яго анатоміі сама агульныя, дык, ці ня лішне было-б іх дэталізаваць, пагатоў, што я прапаную толькі вонкавы агляд. Пасьля сам адзначыш, табе захочацца паглядзець, што там унутры, але гэта відаць ужо наступным разам.

Чытайце працяг на наступнай старонцы.

### Ад рэдакцыі.

**Нам кажуць, што шмат з тых, хто атрымаў які папярэдні нумар «Аксамітнага Жаха» ня ведае, дзе атрымаць чародны.. Каб гэтага ня было далей, мы радзім, каб усе хто хоча атрымаць нашу газэтку, прысылалі нам свае адрэсы. Хто не пасьпее зрабіць гэта, на таго можа не хапіць нашага сіроцкага, як кажа пан рэдактар, тыражу. Тэлефануйце ў Гомелі 48-59-14 да пана Андруся Скідана па дакладнае інфармацыі.**

# І зноў пра Лядаўскі вятрак...

Я ваджу пальцам па мапе й адзначаю ўзвышшы й карэнныя берагі рэк, пракаветныя бары, у якіх хаваюцца аплыўшыя курганы, зарослыя чарнічнікам, паўтараю знаёмыя назвы ўрочышчаў і стараюся прамінуць чыгункі, шосы, мэліярацыйныя канавы й аранжавыя плямы гарадоў. Лёкка я пераскокваю Дняпро й нарэшце спыняюся ля вяртлявае вітачкі Бярэзіны. Недзе там, здалёк ад буйных шляхоў ёсьць вёсачка Ляды, не вялікая й не малая.

«Збор помнікаў Гомельскае вобласьці» – выданьне, якое не пакідае для лірыкі аніякіх шанцаў, сьцісла й нішчымна апавядае аб нешматлікіх адметнасьцях, і калі-б не фотаздымкі, нізавошта не ўявіў-бы, як яны выглядаюць, чытаючы архітэктурныя апісаньні. Пад нумарам 811 у гэтым казённым фоліяньце значыцца лядаўскі вятрак – помнік традыцыйнае вытворчае архітэктуры канца XIX стагодзьдзя, які, перабраўшыся сюды зь іншае вёскі, вось ужо семдзесят пяць год даказвае сваю перавагу над усім навакольлем. І як любая старабытная рэч, мае нялёккі талан, падобны на лёсы людзей, што старэлі з ім разам. Тыповая ўсходнебеларуская шатроўка нягледзячы на свой паважны век трывала стаіць на васьмікантовым бервяным зрубе, які ўва ўсіх тутэйшых ветраках невысокі, у чатыры вянцы, і выконвае ролю фундамэнту. Прыгледземся ўважліва, вятрак складаецца з трох частак, і фундамэнт – гэта якраз дольняя, памянёная намі; на ёй сталюецца асноўная, сама – вежа, шкілет якой набраны з тоўстых брусаў ды зьверху абшаляваны дошкамі, што паўтарае форму зруба й дагары трошкі звужаецца, а ўгары вышняя частка – рухомы шацёргалава, такі-ж васьмярычны, навісаючы над асноўным аб'ёмам. Шацёр з грэшнай зямлёю зьвязуе брус-дышаль ды чатыры жардзіны, што надзейна павязуюць галаву за выпусты кансольных бэлек, на якія яна абапіраецца, гэткім чынам утвараючы трывалую й элемэнтарную паваротную канструкцыю. Дык як-жа яна паварочвалася, калі за адзін дышаль узяцца й пасоваць: вочы ад напругі павылазяць? Канешне, здуру можна й кілу[2] зарабіць, а вось каб павярнуць, тут відаць аднае дуры малавата выйдзе. Таму, каб не цягнуць, абсіраючыся, гэткую магуту, на дышалі мацаваўся цыліндрычны барабан лябёдкі із ручкаю з наматаным ланцугом альбо якой гужавінаю, што вольным канцом сваім, абазначаным пятлёю, накідваўся на слупок, укапаны побач з млыноваю вежаю;



Лядаўскі вятрак (са «Збору помнікаў...»)

круціцца ручка, бразгае зялеза: няхітрае приставаньне, аказваецца, вярне шацёр. Паволі сунецца ён па драўляным вобадзе вакол свае восі, вялізарнага слупа-матавіла. Трохі падцягнуўшы перакідвай пятлю да суседняга слупочка й зноў круці ручку, аж покуль махі ня зловяць ветра

З пракувеку выкарыстоўвалася гэткае прыстасаваньне, служыла добрую службу й дайшло дасёньня бяз істотных зьменаў. Глядзіце фота, што ўдала дэманструе ўладжаньне лядаўскага ветрака, бяз яго мае словы мярцьвеюць, а літары супраціўляюцца напісаньню. І выконваючы нялёккую задачу, рыхтуючы гэты матар'ял, можаце не сумнявацца: да справы я падыйшоў надзвычай адказна й старанна, гэтак, як нашыя вучоныя-фальклярысты й этнографы. А цяпер пра тое-ж самае, але з іншага боку...

**Валерыч**

---

(Пачатак на першай старонцы)

Ветракі на дзьве катэгорыі дзяліла канструкцыя паваротнае часткі, бо калі ты, дружа не знаёмы з млынарскаю гаспадаркаю, скажу, што вятрак у любым выпадку мусіць падстаўляць ветру свае крылы, а вецер, сам разумееш, сёньня дзьме з Якубоўкі, заўтра – з Давыдаўкі, цёплы лагодны паўдзённы вятрыска зьмяняецца сьцюдзёным сіверам, і тады дзейнічаюць паваротныя прыстасаваньні: круцяцца лябёдкі, рыпяць дышалі, крылы заўсёды знойдуць сьвежую плыню.




Млын: а) казловы; б)шатровы

Дык вось млыны, што павярталіся ўсім сваім корпусам, менаваліся казловымі **(казлоўкі, нямецкі тып, Аўт.)**, бо апірышчам вежы-шпакоўні, а яна сапраўды нагадвала шпакову хатку, служыў таўсьценны слуп, праўцаком[5] замацаваны ў бервяной крыжавіне, козлах, на які быў насаджаны суклёт[6] пабудовы.

Вакол гэтай палі й павяртаўся вятрак, калі за дышаль браўся мельнік з сынамі й далібог усё гэта нагадвала: «избушка, избушка, стань к лесу передом, ко мне [redacted] **(закрэслена мною, Рэд.)**, прычым для аблягчэньня павароту на канчар дышалю мацавалася кола, што каціласа па зямлі. Гэтая архаічная млыновая сыстэма, маючы цэнтральную вось, патрабавала раўнавагі, бо гарызантальны вал з магутным кулачковым колам яўна ссоўваў цэнтар цяжару да аднаго боку й таму, паводле ўсіх законаў фізыкі, патрабоўваў важкай альтэрнатывы з другога.

Другі тып ветрака, шатровы **(шатроўка, галяндзкі тып, Аўт.)**, надзейна цьвердзіўся на зямлі ўсёй сваёй баштаю[7], а рухалася адно вышняя частка; сапраўды, навошта вярнуць усю пабудову, калі можна абмежавацца толькі млыновай галавой, дзе й разьмяшчаўся мэханізм, што непасрэдна стасаваўся з ветрам: махі[8] й гарызантальны вал, на які яны былі насаджаныя. Такая канструкцыя дазваляла павялічыць вышыню ветрака, ягоны аб'ем, трываласьць канструкцыі, яна была болей наватарскай, прагрэсыўнай, рацыянальнай, але й выдаткаў патрабавала больш. Напрыклад, мэталічных дэталяў у шатроўках патрабавалася болей, чым у казлоўках, а мэтал тады даваўся ня так проста, як нашымі днямі.

Ветракі гэтых двох тыпаў здаўна падзялілі сфэры свайго ўплыву, разьмежавалі тэрыторыі й адзін да аднаго ня лезьлі, кожны шчодра адораны ветрам. Казлоўкі апанавалі Заходнюю Беларусь і купна зграмадзіліся ў Слуцка-Любаньскім рэгіёне, ўтварыўшы лякальную млыновую рэспубліку. Шатроўкі ўпадабалі ўсходнія землі, Падняпроўе й Пасожжа, дзе й гуртуюцца-канцэнтруюцца ў Хоцімска-Краснапольска-Крычаўскай краіне.

Вось не брашу я табе, а калі ня верыш, пачытай разумныя кніжкі, там людзі навуковыя, ня мы з табою, пішуць усё складна, ды лоўка выкладаюць.

---

[1] Негілюзны – непрыглядны.
[2] Спаруда – пабудова, збудаваньне.
[3] Тартак – лесапільны завод, піларама.
[4] Фолюш – сукнавальня, мануфактура для вытворчасьці валяных вырабаў.
[5] Праўцаком – старчма.
[6] Суклёт – каркас.
[7] Башта – вежа.
[8] Махі – крылы.

Яўген Малікаў

# Што рабілі талакоўцы пад Жлобінам?

Улетку 1996 року талакоўцы хадзілі ў краязнаўчую экспэдыцыю ў Жлобінскі раён. Напісаў і задумаўся. Не, рок паставіў правільна, проста экспэдыцыяй гэтае шэсьце назваць цяжка. Вандроўка – вось слова, што трапна характарызавала-б увесь чатырохдзённы рух наперад, а галоўнае, адпавядала-б рамантычаму настрою ўдзельнікаў. Дык вось, гэта была адна з тых фалькльёрна-этнаграфічных вандровак, якія і цяпер штолета ладзіць гомельская “Талака”. Тая-ж памятная выправа пралягала па маршруце Васілевічы-Ляды-Стрэшын, і сярод вёсак, што міналі лёзныя[1] людзі, Ляды былі, відаць, найпрыгажэйшаю. Да таго-ж, ёсьць у вёсцы й маясцовая выбітнасьць – стары ветраны млын, што стаіць асобкам за аселіцай, а тамтэйшыя жыхары дапамаглі талакоўцам адшукаць млынара, цяперашняга гаспадара млына: “А, гэта вон радам жыве. Дзе бярозавыя дровы ляжаць. Ён вам схадзіў, паказаў-бы, пабачылі”.

–Дык мо й адкрыў-бы?

–Мо й адкрыў, а што яму? То папрасіце, Васіль Трахвімавіч завуць.

Як пайшлі талакоўцы да азначанай хаты, як увайшлі ў двор, а насустрач выходзіць такі дзядок, відаць сам Васіль Трафімавіч. Павіталіся, як у добрых людзей водзіцца, і пра млын пытаюцца. А Васіль Трафімавіч: “Не-не, ідзіце сваёй дарогай, ня буду я яго прадаваць, адурылі ўжо галаву”. Але не разгубіліся талакоўцы, адразу падключылі свае камунікацыйныя здольнасьці, бо не дарма-ж раней у вандроўкі хадзіўшы гэткія дыпляматычныя выкрутасы выраблялі, каб пачуць ад бабуляк даўгачаканыя песьні, што й Карнэгі[2] з ягоным “як аказваць уплыў на людзей” ня сьнілася. Спыталі й пра бульбу, і пра яблыкі, і пра курэй, не забыўшыся пра карову, старшыню калгаса й дзетак у горадзе. Вось дзе сапраўдная школа “маладога гаваруна”. Звычайны сярэдні талаковец здольны разгаварыць чалавека й прымусіць таго прасьпяваць колькі беларускіх песень, а потым упрасіць прасьпяваць яшчэ разок, бо “забыліся ўключыць дыктафон”. Гэтак чарга дайшла й да дзеда Васіля. Разгаварылі й яго. Высьветлілася, што дзеду столькі разоў прапаноўвалі прадаць бацькаў млын, што ён і зараз прыняў талакоўцаў за чарговых пакупнікоў, але ў іх грошай добра, каб на квіткі дадому хапіла, і, відаць, упэўніўшыся што гэта не ліхадзеі , а наадварот “russo turisto, obliko morale”, павёў усю валку да самога млына.

Васіль Трафімавіч Фамянок, 1921 року нараджэньня, нарадзіўся й жыве ў в.Ляды **(дыктафон уключаны, Аўт.)**.

“У бацькі было із маткаю восем дзяцей і восем гэктараў зямлі. Што гэта, восем гэктараў зямлі на восем дзяцей, ды самых двое, во, дзесяць душ? Дык бацька бачыць, што зямлі мала, а нас хлопцаў шэсьць, ды дзьве дзеўкі, узяў ды й купіў мельніцу, ды за свае грошы, а яму тады трыццаць восем гадоў было. Ну, бацька парашыў, а матка мая пакойная казала: “Ух, я не хацела, як мая душа чуствавала ”. А мне тады тры гады было, пад стол хадзіў, але помню толькі, як вазілі. Эта як у етае ўрэмя пераносіць мельніцу, ды як-бы калхоз за раз забраў ды й перавёз, цехнікі столькі. А тады-ж усё конікам ды волікам, ды пяцьдзесят кілометраў, ядрона-палка, нада ехаць з етага дзе бацька купляў... **(Васількаў ці Дуброва, Аўт.)** А ета-ж ні воз, а ета-ж машына, ета-ж нада прывезьці, а потым-жа і сабраць – ну дык чалавек хацеў жыць. Дык вот купіў, паставіў – кулак і ўсё. І раскулачылі ў трыццаць першым годзе. Мельніцу забралі ў калхоз, а бацьку саслалі ў Сібір, там ён і памёр. Пасьля вайны ўжо я працаваў на ёй, дванаццатага сенцябра ўжо пяцьдзясят гадоў я на гэтай машыне работаю.”

Вось падыйшлі да млына. Праз шырокія дзьверы ўвайшлі ўнутр, і дзед Васіль паказаў мэханізм: жорны, восі, падачу



**Васіль Трахвімавіч Фамянок (з фота Я. Малікава)**

зерня **(адкуль сыпалася й куды высыпалася, Рэд.)**, а тым часам талакоўцы ўжо караскаліся па дзьвёх лесьвіцах, што вялі ўгару пабудовы. А дзе духна толькі рады: “Маладыя хлопцы – хай лезуць, пабачаць!” – і працягнуў свой расповяд: **(дыктафон уключаны, Аўт.)**

“Раней малолі на махі, я сам малоў: вецер дзень і ноч – дзень і ноч мелем. Дык як вецер, то і на два камні малоў, а як зараз на прывадзе, толькі на адзін, матор вунь у будачцы, а ад яго да калоны двума рамнямі, ды й круціцца. Сьвету няма, а то уключыў-бы. А махі пападалі, пагнілі. Дык калі у нас быў сакратар, жэншчына, Артамонава, ну мы тут знайшлі спэцыяліста, шаляваць. Абшалявалі, каб проста музеем была. Тая ўжо была пагніла, дык абшалявалі, а тое ўсё старое дрэва **(суклёт, Аўт.)**. І махі падзелалі, хоць яны ўжо не круціліся, з тых махаў толькі два засталіся, ўжо ад ветру паламаліся, такія во майстры, вы-б мо луччай зьдзелалі.

А есьлі на вецер павярнуць, круцілася толькі адна шапка, вунь, бачыш, круг, а на двары быў такі руль і лябёдка перацягнута, я цэпам кручу, і яна, шапка, вернецца. Пеўнік паказвае адкуль вецер, дык во й круціш, а сама стаіць на месцы. Мне казалі, ці то на Ўкраіне, ці то дзе, ўся круціцца, а ў нас толькі шапка, а ета – мёртва ўсё.”

Удосыць наштурмаваўшыся млыновых вышыняў, талакоўцы, стомленыя й ўражаныя, з шкадаваньнем пакідалі цёмную высокую прастору, напоўненую шоргатам жорнаў, рыпам шмыгаў[3], і, хоць усё зьнерухомела, здавалася, мучная пылка серабрылася ў сонечных промнях, што прабіліся праз шчыліны. Ішлі і ўсё азіраліся, стараліся запамятаць грувасткую надзейную яго паставу, а мо думалі вярнуцца праз пэўны час, каб ізноў перапэцкацца ў муцэ, каб ізноў паслухаць дзеда Васіля, які не адцураўся ад бацькавай справы, выкарыстоўваючы стогадовы мэханізм, каб замераць колькі ён вышынёю, гэты вятрак.

І неўзабаве, ў працэсе падрыхтоўкі гэтага нумару аформілася аксамітная ідэя правядзеньня шэрагу вандровак да захаваных пасёньня ў падняпроўскім ды пасожскім рэгіёнах млыноў-шатровак: у в.Ляды Жлобінскага р-ну Гомельскае вобласьці, у в.Бярозаўка Кармянскага р-ну Гомельскае вобласьці, у в.Тур’я Краснапольскага р-ну Магілеўскае вобласьці.

З мэтаю іхнае падрабязнае фіксацыі, прамалёўкі й замеру, а гэтаксама дзеля збору зьвестак аб прафэсыйных млынарскіх асаблівасьцях, аб асновах рамяства, мэханізмах і гісторыі спарудаў.

---

[1] Лёзныя людзі – вандроўнікі, бадзягі, бамжы.

[2] Дэйл Карнэгі (1888-1955) – амэрыканскі спэцыяліста ў галіне чалавечых зносінаў, непапулярны ў вольнамастацкім асяродку.

[3] Шмыгі – брусы, што мацуюцца да гарызантальнага вала, на якія насаджваюцца махі (крыльле).

**Млынар – чалавек, зьвязаны із звышнатуральнаю "нячыстаю" сілай, рамесьнік-прафэсыянал, валодаючы сакрэтамі свайго майстэрства, спасьцігнуўшы нялёккую справу да драбніцаў, да нюансаў, што арыентуецца паводле слыху, паху, невядомаму падсьвядомаму чуцьцю; і робіць ён яе, быццам творыць рытуальную дзею. Любое рамяство-майстэрства зьяўляецца магічным, чароўным, бо толькі прафэсыяналу адкрытыя таямніцы рабочага працэсу, сховы ведаў, назапашаныя пакаленьнямі цэхавых майстраў, толькі прафэсыянал валодае загадкавымі магічнымі прыёмамі, што робяць гэты працэс дакладным і беспамылковым, толькі прафэсыянал здольны прадбачыць ды прагназаваць, вопытны мудры чалавек. Гэтак сталяр-прафэсыянал, узяўшы дошку, ведае, што зь яе атрымаецца, адчувае яе вільготнасьць і тое, у які бок яе выгне праз тыдзень-два, лоўчы-прафэсыянал умее размаўляць з выжалам[1], млынар-прафэсыянал – з ветрам. Зрэшты, вецер, як завіхораньне паветра вялікае магі[2], сам па сабе асацыюецца ў міталёгіі з грубымі хаатычнымі сіламі, сфэрамі дзейнасьці тытанаў і кіклопаў. Чалавек-жа, які змог падпарадкаваць сабе гэтыя стыхійныя сілы, сапраўды вядзьмар-чараўнік. Вялікі прафэсыянал, вядзьмар ад прафэсыі. Нездарма ў казках млынары чыняць суцэльны дэмантаж: то хлеб мелюць з каменьня, то абяртаюць у камень таго, хто слова ўпоперак скажа, а сустракаюцца й увогуле жудасныя выпадкі, адзін зь якіх прыводзім на аксамітных старонках...**

# Як чараўнік абярнуў вясельны паязд у ваўкоў

Некалі ехалі маладыя з вянца й, астанавіўшыся ў канцы сяла, прасілі выйшоўшага мельніка, каб ён адчыніў ім весьніцы. Але той не ўважыў іх просьбы й сказаў на ехаўшага сьпераду свата:

– Невялікі пан, і сам можаш адчыніць.

– А якім ты велькім панам тут зрабіўся; бадай табе камень лопнуў!

Адно што сват сказаў гэта слова, як у мліне зрабіўся някі велькі стук. Калі паглядзіць туды мельнік – аж яго камень, як сказаў сват, разляцеўсе надвое. Тады ён выскачыў зноў на двор і крыкнуў на дружбу[3]:

– Гуж, га!

Посьле гэтых слоў мельніка людзей на возах як не было. Уся дружба абярнулася ў ваўкоў і точкаю[4] пабяжала ад сяла ў лес. Гэты мельнік зрабіў ім быць ваўкалакамі сем лет. Так яны й бегалі Маладая й дружкі як былі ў сужках, так на іх была й шэрсьць у дзяжкі[5] рознага цьвету.

**(З запісаў П.В. Шэйна, беларускага этнографа і фальларыста)**

---

[1] Выжал – паляўнічы сабака.
[2] Мага – моц, сіла.
[3] Дружба – сябры жаніха.
[4] Точка – чарада, зграя.
[5] Дзяжкі – стужачкі.

**Выходзіць, перад ім, гмыраю, нам трэба паклоны біць? Нездарма млынарова гаспода ізаляваная ад вёскі, млын, як і кузьня, знаходзіцца на ўскрайку за ваколіцай, так і яны, млынар ды каваль, збоку вясковае абшчыны, адзін падпарадкоўваючы вецер, другі – агонь. І ізаляванасьць гэтая нагадвае чарняцова схімніцтва й зьвязаная з стаўленьнем да іх як да людзей, што валодаюць сакральнымі здольнасьцямі, носьбітаў вышэйшых ведаў, захавальнікаў звышнатуральнае сілы, зьвязаная з страхам перад рэалізацыяй гэтых таямнічых сілаў.**

**Хоць, калі разабрацца, хіба гэта кепска, быць чараўніком у сваёй справе, рабіць цуды рукамі з простых прыродных матар'ялаў: гліны, дрэва, каменю, скуры? І ці паменела сярод нас ваўкоў ад таго, што зьвяліся млынары? Ці саладзей жыці нам бяз іхнае мучное гаспадаркі?**

**Сьпецыяліст**

---

**У старабытным палескім краявідзе сярод саламяных стрэхаў, чародаў двароў, старых вербаў яны фантастычна ўзвышаліся, ажыўляючы панылае навакольле мерным запаволеным рухам. Відаць, толькі звонніцы цэркваў былі вышэйшыя за дашчатыя тур'і ветракоў. Напрыклад, у вёсцы Неглюбка Веткаўскае староны іх было чатыры, але лёс ня быў да іх літасьцівы. Гаспадар аднаго з іх набыў свой вятрак, прыехаўшы з Амэрыкі з заработкаў, ды хіба далі яму, гарапашнаму, мецi свой здабытак? "А як пачалася гэтая савеччына " – узгадвае баба Маня, і мы разумеем чым усё скончылася. Хацелася-б дазнацца, а якімі яны былі, тыя неглюбскія "ветрянікі", ды толькі ня памятаюць людзі, бо даўна ня стала іх, але падазраем, шатроўкі гэтыя мала чым розьніліся ад стаўшаю свойскай, лядаўскай, як і плата за памол была аднолькаваю: з пуда кілеграм.**

**Шмат стаяла іх на нашай зямельцы, кажуць на шляху ад Доўску да Гомля сустракаліся праз кожныя дзесяць-дваццаць кілямэтраў. Дакляруем, што ў наступным млыновым нумары мы пазначым усе ветракі, што дасталі сёньняшняга часу, і вы пабачыце, шаноўныя нашыя чытачы, іх засталося ня так ужо багата.**

**Гэты матар'ял быў завершаны, калі сонца ўжо сядала за залінейныя стрэхі, і хтосьці, ня памятаю хто, прапанаваў наведаць Якава Пятровіча Стывенсана, а заадно й паказаць яму скончаную працу. Пасьля двохмесячнае аксамітнае падрыхтоўкі, калі ветракі трывала сядзелі ў пячонках, у калектыва рэдакцыі ўзьнікла вострая патрэба падзяліцца з кім-небудзь гэтаю нутранаю перанасычанасьцю. Нягледзячы на ўсю стыхійнасьць прапановы, аб'ект візыты быў абраны адзінадушна. Ўсю зіму аксамітныя ня бачыліся з Якавам Пятровічам, то з прычыны ўласнае занятасьці, то з прычыны ягонага грыпу.**

**Дружна сунулася кампанія, па дарозе карыстаючыся рэчыцкім півам** (рэчыцкім і толькі рэчыцкім, Рэд.), **паралельна лініі Лібава-Роменскай чыгункі, набліжалася да сьціплага двупаверхага дому ў два пад'езды із драўлянаю лесьвіцаю. Дзьверы адмыкнуў, як і належыць чалавеку адзінокаму, сам Якаў Пятровіч і гасьцінна разьмесьціў увесь калектыў у калідоры. Прачытаўшы першую старонку макета, ён па-настаўніцку зірнуў панад акулярамі і прамовіў: "Не думал я, молодежь, что по плечу вам столь сложная тема, но... Но. Похвально. Похвально. Только вот где же поэзия, столь необходимая многим? Ранее вы о ней не забывали..."**

**Так, перагледзячы амаль ужо гатовы нумар, было вырашана дадаць яшчэ колькі старонак. Набыўшы яшчэ піва, пасунуліся мы далей – па матар'ял, мілуючыся тым як заходзячае сонца грае ў цемным шкле піўных бутэлек.**

**Прынамсі ісьці было недалёка...**

# Ад Кіёта да Вільні

**Зусім ня дзіўна, што на аксамітных старонках пануюць ветракі, дзе, як ня тут будзе пахваленым “старое дрэва”, але безаглядна захапіўшыся архаічнай тэмай, а ў нас, далібог гэта ўмеюць, аўтары матар’ялаў і не заўважлі як у’еліся ў пячонкі, а слова** вятрак **колькі разоў паўторанае нагнала аскоміну, ад якое трэба ратавацца ня іначай, як паэзіяй. Таму лагічна будзе падкрэсьліць усе раней прачытанае** (канешне калі вы чыталі. Рэд.) **вершаванкай напісанай у сугуччы з ветраковай канцэпцыяй, пагатоў, што яна не завяршае, а адкрывае новыя аксамітныя далягляды, поўныя цікавостак і дзівосаў:**

У галодны год свае ініцыялы
Мукой я напішу на прызьбе
Як добра жыць пры камунізме
(…севіч)

**Вось нагода датыкнуцца да паэзіі (ах, нарэшце да паэзіі), вось нагода падключыцца да лірычнае хвалі, што разганяе на барозны местачковы эфір, каб прагнаць этнаграфічны кавалак, які ў кагосьці стаў горлам. Чытайма далей: на аксамітных старонках з’ява, вакол якое здольныя сабрацца, як выказаўся пане рэдактар і жук і жаба.**

Аднойчы наведаў мяне бялявы чалавек ды прапанаваў укласьці нізку гамялецкіх хоку. Ён гэтак і сказаў: “гамялецкіх хоку”, і нічога, нармальна. А я вось ледзь не падавіўся гэтым назовам. Ї хоць аўтараў, што так ці іначай выкладаюць свае грацыёзныя думкі сьціслай аскетычнай манэраю повен горад, але даруйце, ці варта завязваць сабе вузлом на традыцыйнай японскай сістэме вершаскладу толькі таму, што яна японская?

Сабралі вершы, launched пасля адсэпарыравалі і халера мяне бяры, ад хоку яны гэтак далека, як Кіёта ад Вільні негледзячы на падабенства нашых сьцягоў, негледзячы на жаданьне асобных творцаў сьлед у сьлед крочыць за самураямі. Вы бачылі хоць раз, як пішуць хоку нашыя шаноўныя? А Божачкі, кірыліцаю выводзяць літары ў сшытках добрусскай фабрыкі “Герой працы”, папіваючы каву, пыхаючы цыгарэтным дымам, спараджаюць местачковыя сюжэты пры тутэйшых акалічнасьцях. А пасьля прыносяць усе гэта і называюць “гамялецкім хоку”! Калі гамялецкім, дык не хоку, а калі хоку – пішы іерогліфамі.

“Калі ёсьць з’ява, дык і назва мусіць быці” – сказаў адзін чалавеча, а другі, як гэта водзіцца пачаў гартаць дыялектычныя слоўнікі беларускіх гаворак і далібог, не дарма марнаваў час. У адным з іх, у Тураўскім, знайшлося-ткі адное слоўца, што ўскосна, але лірычна абазначае паняцьце. “Магулінка” – маленькая частка чаго-небудзь, прычым чаго канкрэтна няясна, можа быць чаго заўгодна. А калі так, чаму паэтычны ўрывак уціснуты ў трохрадкоў’е ня можа быць тэй самай магулінкай? Наймаленечкая часьцінка паэзіі, яна нават гучыць памяншаючыся з кожнай літарай і пяшчотна апраўдваецца за сваю мізэрнасьць. Але гэта толькі форма мізэрная, ва ўсім астатнім за словам паўстае мага (моц, сіла – Лоеўскі дыялектычны слоўнік. Рэд.) што заключаная ў зьнешне кволым целе. Ї ў рэшце рэшт слова гаворыць аб мастацкім патэнцыяле, творчым самасьцьвярджэньні. “Так ведь и я могу”, – скажа які-небудзь малады чалавек з атэстатам сталасьці на руках і хто ведае, лежучы на пляжы прыдумае раптам штосьці гэткае... Мо сонца ў галаву напячэ, мо яшчэ нешта – справа няхітрая. “Так любой дурак смогёт”, – зцьвердзіць чалавек больш сталага веку і ані памыліцца: ня трэба быць паэтам каб складаць простыя, міласныя, добрасуседскія вяршыскі, за якімі, як і за ўсім тутэйшым – цэлы сусьвет.

**Знаёмы Вам**




**Фрагмент плана Гомеля 1910 г.**

**Вуліца Магілёўская. Мы сядзім за гасьцінным сталом, дзе харбата з бергамотам, ды батон з маслам, да крамныя пернікі, сядзім прыдумляючы лоўкі загалоў для вершаванай старонкі. Падумаем трошкі, сербанем харбаты, ды ізноў задумаемся.**

**Вуліца Магілёўская за сьцяною дома, дзе на кожным з чатырох паверхаў ёсьць кватэра, дзе пражывае ветэран альбо ахвіцэр–адстаўнік. Тут усяго адзін пад’езд, таму ўсе ўсіх ведаюць, мо нават ведаюць тое, што мы сядзім зараз і ўтвараем нейкае фармазонства. Варта аб гэтым напісаць участковаму, варта.**

**Вуліца Магілёўская цяпер носіць імя Сяргея Міронавіча Кірава-Кострыкава, але быў час калі пачатак яе быў пачаны галоўнай градзской сінагогай, ціхая, спакойная, упарадкаваная перасякалася яна з Траецкаю, Канатнаю, Аптэчнаю. Ї, як ня дзіўна вывдзіла менавіта на магілёўскі накірунак.**

**Вуліца Магілёўская. Мы абжылі першы паверх і ў фортку проста залязае котка з сынком-каточкам і ля самых нашых ног яны шморгаюць насамі.**

**“Мы выдумлям назву, а тут столькі гатовых арыенціраў!”**

**“Трэба зірнуць вакол сабе і на чымсьці спыніць свой позірк і гэта штосьці не павінна адпавядаць зьместу напісанага.”**

**“Не ведаю што там і як, а аксамітныя назовы не абыхдзяцца без маразму.”**

**“Асьцярожней на кіску не наступіце.” Дык ўсё ж ткі, якую назву выбраць?**

# Вуліца Магілеўская

падборка магулінак (бо гамялецкіх хокку)

## Владимир Ступинский

Напиши мне письмо
На кленовом почтовом листе
И отправь с первым ветром,
Пока не застыла река
Свинцовой тесьмой...

* * *

Утренний дождь
Ушел на восток.
Рыжий пес
Греет бока
В ворохе прелых листьев.



## Елена Маршова

Весь этот долгий день
мне хотелось обнять тебя
и сидеть и слушать как тихо
проходит на цыпочках время

* * *

замерзшие слезы неба
вот мост между
людьми и вечностью
но об этом знают лишь деревья
печально глядят они на людей
спрятавшимися под зонтиками



## Владислав Коцуро

Словно птица в иней травы слетает
Лист каштана

* * *

Заиндевела полная луна
Сыплется в ночное небо иней
кропотливым бисером

## Бэлла Сосновская

Утром я нашла дорогу к тебе
Чем была ночь для меня...
Сном среди газет

## Арыя-Ульрыка Гатальская

Збан нясу.
Малако хвалюецца
Не расплёскаць бы поўную!

* * *

Шчакой да пялёстка герані.
Лёд у пальцах.
Супярэчнасьць восені.



## Зьміцер Ка

Зьнікаюць абрысы прадмесьця
Напоўнены дворнік зьмятае
Замоўклыя казкі.

## Геннадий Лопатин

еще снега затем чисты
чтоб бегства нашего в Египет
собою занести следы
и взять январь себе в эпитет

* * *

когда ты выйдешь к поездам
не возвратить тебя тогда
и мне подумалось о том
чтобы гвоздиками наш дом
наш двор до неба оплести
чтобы не выйти не пройти

## Багдан Баркулаб Шых

Дзікі год.
Ломяцца рукі яблыняў
Шамаціць мак.

* * *

Вецер гуляе
з мокрым лісьцем
гэтаксама
як і агонь
з сухім



## Валерыч

Разгаты куст шыпшыны ля дарогі
Узгадала ты
Калі іголкай палец укалола.

* * *

Паміж старонкамі сёмай і восьмай
Белай капусьніцы пыльнае крыльца
Перад сном пачытай мне
Вершы



## Ларыса Раманава

Выйшла на вуліцу
паглядзець
дзе Руніта

* * *

Памер чалавек
Навокал – сьветла ад сьлез
Быццам у раі

Малюнкі В. Кацуры

**Совсем не удивительно, что эпоха, когда сочетание «желтой кофты и красной пентаграммы» было отличительным знаком элитной литературной школы, наложила отпечаток на наше местечковое творчество. Тем более, что городок наш всегда отличался лояльностью граничащей с пофигизмом дзен-будистского масштаба. Не сразу, конечно, редактор наш взялся за публикацию этого дебютного рассказа выпускника БИИЖТа, ныне ведущего секцию тайцзи-цюаня в одной из школ, мотивируя это тем, что** «сколько можно пинать хладный труп!?», **имея в виду социализм. Но, кто знает... Кто знает...**

Алексей Крамышев

# Жили долго и счастливо и умерли в один день

(биография-соло)

Иван Семенович родился в семье инженера теплосетей Семена Дмитриевича Сидорова и учительницы средних классов Сидоровой Валентины Потаповны.

Родился благополучно в роддоме N17. По причине трудовой занятости родителей Иван Семенович, как большинство нормальных детей, почти сразу был определен под теплую и дружественную заботу государства. Другими словами, был отдан в ясли, а по окончанию, само собой, отправлен в детский сад N7 им. А.М. Грубе – героя-подпольщика неимоверной классовой сознательности и силы духа. Легендарное имя героического подпольщика наложило неизгладимый отпечаток ответственности на всю последующую жизнь Ивана Семеновича. Столкновение с чудесами отрешенности и человеколюбия в лице патриота в столь раннем возрасте явилось для Ивана Семеновича ярчайшим переживанием всей его жизни.

Потом была школа. Веселая жизнь начальных классов в кругу молодых и хороших товарищей. Окруженный уважительным отношением и тонкими воспитательными свойствами своих наставников, Иван Семенович был первым из класса принят в октябрята, и радостно носил маленький октябрятский значок.

Учеба давалась просто, все-таки мать Ивана Семеновича была профессиональным педагогом, и, отдаваясь порывам любви к своему сыну, легко обучала его тонкостям учебной жизни ребенка, а так же сложностям жизни молодого человека в сложной и многогранной сети общественных отношений.

Жизнь била ключом, и, в третьем классе, как и полагается, Иван Семенович был принят в пионеры.

Конечно, были и огорчения, были и сложности в сознательных и насыщенных взаимоотношениях ранней жизни Ивана Семеновича, но в третьем классе решительно произошло событие, капитально определившее весь дальнейший ход интересной жизни полодого пионера, а потом, повзрослев, и комсомольца и далее... Одним словом, однажды, в третьем "Б" классе появилась новенькая девочка – Мария Васильевна Петрова, перешедшая в школу N24 из школы N9, очевидно именно для того, чтобы встретить всю свою дальнейшую судьбы в лице уважаемого нами Ивана Семеновича Сидорова.

Долгое время Иван Семенович стеснялся, идеологически запутанный трудностями сложной коммуникации отношений ранней молодости. Он долго смотрел, наблюдая из-за соседней парты, наслаждаясь красотой и невинностью изгибов конфигурации плеч и волос молодой Марии Васильевны, тягостно понимая всю свою несостоятельность в вопросах легкости общения между сверстниками противоположного пола. Он также понимал, заблужденный романтическими путами юности, сколь недостойно никчемен его собственный облик в вопросах отношения к Марии Васильевне. Он тосковал, ныл и стеснялся. И это было прекрасно, потому, что всякие проявления жизни интересны и влекут, чем и составляют, собственно, эту вот самую, что ни на есть, значит, жизнь.

А жизнь, она идет, люди взрослеют, молодые уж немолоды и вот на пороге – комсомол.

Комсомол принял Ивана Семеновича дерзко и радостно в свои широкие и мужественные объятия, а вместе с комсомолом приняла его и Мария Васильевна, безвариантно влекомая ее собственной непростой судьбой.

Как прекрасны были их первые встречи, как прекрасны были их последующие встречи... Двое влюбленных (как, впрочем, не они одни) в полной мере осознавали, что нашли друг друга в этом большом количестве серьезно прекрасных лиц окружавших их повсюду добрых товарищей.

Прошла школа, пришла дальнейшая учеба в высших заведениях. Несмелая влюбленность превратилась в глубокое и сильное чувство взаимосовместного существования. Мария Васильевна Петрова и Иван Семенович Сидоров поженились и стали жить счастливо в институтском общежитии, которое им любезно предоставило любимо-родное государство после регистрации.

Да, конечно, были и невзгоды жизни в их совместной судьбе. Трудные годы рождения детей. Полные радости расширяющихся впечатлений увеличившейся семьи, родители понимали всю глубину серьезной задачи сбережения и воспитания новой жизни, нелегкую, но такую интересную ответственность пред самими собой, перед родиной, перед Богом, в конце концов. Мария Васильевна с детства глубоко верила в доброту и справедливость того высшего, кто ведет, согревает по жизни сердца верующих в него, в его мораль и нравственную красоту и чистоту божественной невинности и доброты. Было удивительно, что она почти сразу смогла передать эти высокие чувства Ивану Семеновичу, а в последствии и своим удивительно послушным детям: Николаю и Галине.

Иван Семенович был строг, но справедлив с детьми, предполагая в них равенство отношений и необходимость ответственности за свои поступки с раннего детства. Привив им любовь к труду, Иван Семенович по настоящему наполнил радостью дальнейшую взрослую жизнь своих детей, за что, те, в последствии, с благодарности вспоминали своего родителя, как человека прямого, честного, удивительной чистоты и трудоспособности.

Таким образом, можно сказать, что Мария Васильевна и Иван Семенович прожили долгую и счастливую жизнь, по своему трудную, но интересную, даря радость окружающим их людям и принося несомненную пользу своему отечеству.

Иван Семенович ходил на работу и работал там главным инженером завода. Его очень уважали рабочие и начальство.

За серьезные успехи в развитии народного хозяйства он был удостоен звания Героя Социалистического Труда.

В поте лица зарабатывая свой хлеб, Иван Семенович всегда помнил о жене своей и все свое свободное время проводил со своей любимой супругой. Он знал, что всегда, придя с работы, его ждет вкусный горячий ужин, веселые игры ребятишек, и, главное, теплая, сердечно понимающая Мария Васильевна, одним движением своей красивой и такой близкой ему руки, способная снять любую усталость с его натруженных рабочим днем рук.

Шли годы, росли дети, появились внуки, пришла старость. Живя в согласии друг с другом они почти не болели, согреваемые и исцеляемые теплыми чувствами любви и взаимного понимания.

До самых последних дней Иван Семенович и Мария Васильевна Сидоровы поддерживали друг в друге силу существования и радость творчества своей жизни, пополам разделяя все , что бы ни преподносила суровая действительность будней и праздников, научившая их многому, даруя любовь и спокойствие, обретенные ими в последовавшей потом нетрудной смерти.

Они жили долго и счастливо и умерли в один день. Их похоронили вместе дети и внуки.

Однажды, в тех местах проходил нищий монах. На секунду он присел отдохнуть на могильный камень Сидоровых. Сплюнул и побрел дальше.

# Могулинки – традиция или потребность?

В местечковой провинциальной традиции, а здесь мы имеем дело с гомельской классической могулинкой, даже крылатое слово, афоризм, абсурдное словосочетание типа “или пан или пропан”, иногда просто нечленораздельное нечто может считаться могулинкой, главное, чтобы оно отражало саму суть провинциального бытия, пусть даже косвенно, но отражало, пусть примитивно, но бытия.

... то есть очень может быть, что основою могулинки действительно послужили исконные японские трехстишия и танки, но теперь согласитесь, это нечто совершенно иное, действуют по собственной схеме, существует отдельно и обособлено являет собой визитную карточку местечковой литературки.

... Создание могулинки не требует эрудиции, глубокого знания предмета, острого проницательного ума, богатого словарного запаса, всего того, чего как раз не хватает многим местным авторам, любителям поэзии. Неприхотлива она и к условиям, ведь писать можно на клочках салфеток, на спичечных коробках, на обертках от вафель, ценниках, наждачной бумаге и т.д., в местах, казалось бы, не располагающих к поэзии. Но, поверьте, это только кажется.

**Мороз.**
**Шум конвейера на рассвете**
**Запах вафлей в воздухе**
**Рождество скоро.**

Классичен пример рабочей могулинки, когда отнюдь не лирическое окружение тем не менее концентрирует поэтическую мысль, и как тут кстати возможность коротко и ёмко высказать свои чувчтва и эмоции. А уж поверьте старику, поэтическая реализация удваивает, утраивает, учетверяет физические силы.

**(Я.П. Стивенсон “Литературоведческие очерки. Минимальная позия” Дружба народов, N7, 1990, стр. 56.)**

**Рэдакцыя сьпяшаецца адзначыць што нізка магулінак ня ёсьць адзінаю і апошняю падборкаю ў гэтым паэтычным ключы. Натуральна, што падобная практыка будзе доўжыцца, а таму ня лішнім было бы зьвярнуцца да творчага дэмасу з прапановаю далучацца да аксамітнае праграмы, зьвязвацца з калектывам рэдакцыі, дасылаючы-перадаючы свае літаратурныя опусы. Памятайце, даражэнькія, мы з вамі разам творым гамялецкі культурны чын і ад нас залежыць узгадаюць яго праз дваццаць год, альбо забудуць праз месяц.**



**“Хопіць! Хопіць! – крычыць пане рэдактар, – ужо калі павінны былі выйсьці!”, – пры гэтым незразумела што ж ён мае на ўвазе – ці то газэтку, ці то менавіта сабе. Трэйцяя гадзіна начы. Папіросная смуга павісла ў рэдацыйнай хаціне. А вось гэта вы чыталі? А гэта? А гэтаму тэлефанавалі? А гэта ўжо на наступны нумар... Ї гэта. А гэта... Рэдактар наш не мілуе не малых ня мілых. “Колькі ўжо можна вашай паэзіі???” – крычыць ён, машучы над галавой (няшчаснай) макетоўшчыка стосам рэдакцыйных матар’ялаў. Але ж і ён у сэрцы сваім чувае, што нашай паэзіі ў нашай газэтцы можа быць колькі заўгодна...**

## Владимир Агафонов

* * *

джаз в комнате
где разбросаны вещи
за окном хлопья снега
белый пух из небесных подушек
исчезающий как сны
при попытке тронуть его рукой
раскрытая книга на столе
с тропками строк
которые уводят в прошлое
на моем носу очки
как у Джона
или профессора германского университета
я пишу
мне хорошо и немного грустно
я пишу правду

Рэдактар: Т.Буль-Бутэліч, Макетоўшчык: Алеська Марцін, Мастакі: А.Скідан, В.Кацура © Арыгінальна idea: Творчая кампанія вольных мастакоў "Магілка". Рэдакцыя надта ж удзячная малдзёвай краязнаўчай суполцы «Талака» за супрацоўніцтва і падтрымку. Папера афсэтная. Друк трафарэтны. Наклад 200 ас. Падпісны тэлефон 48-89-90 (Алесь), і гэтаксама 48-59-14 (Андрусь)